Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Нявпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пятыту ў 1 шпальту.

№ 32 Вільня, Субота 23-га ліпня 1927 г. Год I

## Сумныя зажынкі.

Пачалося ўжо жніво.

Звычайна дзень пачатку жніва выклікае сярод сялянства радасны настрой: вось, нарэшце, прыждалі людзі новага хлеба—пасьля веснавое галадухі і цяжкай працы каля ральлі. Некалі навет існаваў звычай спраўляць „зажынкі“, і ў песьнях, танцах, карагодах маладыя дый старыя выяўлялі сваю гэную радасьць.

Сёлета няма вясёласьці ў вёсцы. Сёлета мала дзе ждуць добрага збору ў жніво.

I ня дзіва. У пяцёх паветах Заходняе Беларусі — на агульную лічбу 27 — град і ўраган зьнішчыў на вялізарным прасторы пасевы, пазрываў стрэхі з хат і гумен, паразварачываў цэлыя дамы й сялібы. Сьцюдзёная і мокрая цераз меру вясна й пачатак лета ў свой чарод папсавалі хлеб усюды, дзе пераважае цяжкі, гліністы грунт, асабліва-ж на нізкіх месцах,—і гэта ўжо ўва ўсім краі. Але найгорш прыдзецца нашаму сялянству там, дзе ўжо й летась неўрадзіла,—а ад леташняга недароду пацярпела большая частка Віленшчыны, дый добры кусок Наваградчыны...

Але ёсьць у нас яшчэ адна прычына, якая навет частковы недарод ператварае для нашага сялянства чуць-што не ў катастрофу. Гэта—тое, што было прычынай страшэннага голаду ў Расеі ў царскія часы, калі багатае наагул і ўрадлівае Паволжа ў неўрадлівыя гады тысячамі вымірала ад галадухі. Прычына гэтая—*малазямельле.*

Паўглядайцеся кожын у сваей вёсцы: сколькі ў вас гаспадароў, якіх гаспадарка можа пракарміць без дадаткавых заработкаў? Такіх — зусім мала. Пераважае ў нас усюды тып гаспадаркі малазямельняй, якая ня можа забясьпечыць хлебам тых, хто на ёй працуе. У перадваенныя часы, да прыкладу, у Ашмянскім павеце 75% (тры чверці) гаспадарак сялянскіх мелі менш за 3 дзесяціны пясочку дый каменьня, а каля 25% гаспадарылі па 1 дзесяціне і менш таго! А за апошнія 20 гадоў зямлі ў сялян не прыбыло, а хіба ўбыло... I вось уся гэтая маса нашых малазямельнікаў, якая і пры найлепшых ураджаях сыта ніколі ня бывае, ня толькі й думаць ня можа аб нейкіх зьберажэньнях у добрыя гады — на выпадак неўраджаю, але й у гаспадарцы сваей ня можа прызапасіць нічога лішняга супраць таго, без чаго ніяк нельга жыць і працаваць. Адзін конь, адна каравёнка — вось бадай і ўся жывёла нашага гаспадара, а колькі-ж з іх навет і на каняку разжыцца ніколі не маглі? I вось, калі адзін толькі год ураджай здарыўся благі, для нашага малазямельніка ён нясе поўную руіну гаспадаркі: бывай здароў і конь, і карова, і часта-густа найбольш неабходныя прылады да працы, а то й апошні кажух ці сьвітка... Праўда, на ліхі канец раней можна было йсьці на заработкі—ці то ў панскі двор, ці ў фабрычныя цэнтры неаб'ятнае Расеі, ці навет за мора—ў Амэрыку перакінуцца. Цяпер усе гэтыя магчымасьці адпалі: двары парцэлююць наміж асаднікаў з Польшчы, а то на дворную работу паны проста ня прыймаюць, бо павыпісвалі сабе парабкоў з Польшчы—„сваіх“; сяляне-кулакі самі сваімі сіламі ў неўрадлівыя гады з гаспадаркай упраўляюцца, прамысловасьць у Польшчы ледзьве-ледзьве дыхае, і ў нармальным часе па гарадох звыш 300,000 работнікаў з іх сем'ямі сядзяць бяз працы й заробку; а заграніцу ня пускаюць дый ня прымаюць эмігрантаў з Польшчы—апрача невялічкіх партыяў на страшэнную эксплёатацыю ў „прыязную“ і саюзную Францыю...

Да ўсяго гэтага трэ дадаць, што наш малазямельнік мусіць сваім жабрацкім куском хлеба дзяліцца йшчэ з дзяржаўным скарбам, каб той мог аплаціць утрыманьне ўсіх дзяржаўных установаў, войска ды арміі ўсялякіх урадоўцаў. I тады стане ясным, якую катастрофу для нашае вёскі прадстаўляе неўраджай.

Мы ўжо падыймалі на страніцах нашае газэты справу *грамадзкае* арганізацыі помачы сялянству там, дзе сёлета будзе благі збор ураджаю. Мы адзначалі неабходнасьць тварэньня на мясцох сялянскіх камітэтаў дзеля падзелу тэй—хоць і невялічкай—дапамогі, якую дае ўрад з агульна-народных грошы. Цяпер мы мусім адзначыць, што ўсе гэтыя лекі—гэта лекі на *вонкавыя праявы* тэй хваробы, ад якой гібее наш працоўны народ па вёсках, але яны ня лечаць самае хваробы: *малазямельля.*

Паўтараем: без вырашэньня ў нас зямельнага пытаньня ў сэньсе надзяленьня нашых малазямельных і беззямельных сялян зямлёй—бяз ніякіх сплат і выкупаў, абсалютна непасільных сялянству,—перад намі кожын год у дзень зажынкаў будзе ўзьнімацца ўсё тая-ж страшная пагроза галадухі, якая пагражае сёлета вялікай частцы Заходняе Беларусі. I зал тым-то змаганьне за зямлю мы павінны стаўляць усьцяж на першым месцы ў нашым змаганьні за хлеб і волю наагул.

# Канец „рэвалюцыі“ у Вене.

### Урад і сацыял-дэмакраты.

Па вестках з Прагі і з Бэрліну — „рэвалюцыя“ ў сталіцы Аўстрыі ўжо скончылася. Адна з бэрлінскіх газэтаў азначыла венскія здарэньні — не рэвалюцыяй работніцкай клясы, але даразным выбухам гневу яе — за нарушэньне яе права на справядлівую ахову з боку суду.

Зрабіўшы сваё, работнікі быццам супакоіліся. Ці гэта запраўднае „ўспакаеньне“, як пішуць буржуазныя газэты, выхваляючы цьвёрдасьць ураду ксяндза Зэйпля, ці толькі „перадышка“, ці першыя зарніцы новай гразы на Захадзе, у свой час пабачым.

Нямецкае агенства паведаміла, што агульная забастоўка скончылася, вярней — разьбілася: трамваі, электрыка, аўтамабілі ўзнавілі рух, але чыгункі навакол Вены яшчэ стаяць.

Урад засядае бясьпынна. Ведама, што ў Вене абвешчана „надзвычайнае палажэньне“. Паліцыя дастала загад тасаваць усе меры, каб спыніць нанова выбух разрухаў. Быццам, урад выдаў адозву, што будзе расстрэльваць тых, хто хавае аружжа без дазволу.

Сацыял-дэмакраты ўсьцяж трэбуюць адстаўкі ўраду Зэйпля, — навет перад зборам парляманту. Але прэм'ер Зэйпэль ведае, што гэта робіцца больш дзеля віду, дык і—вухам ня кране: адмаўляецца рашуча. Ен навет не згаджаецца звольніць таго прэзыдэнта паліцыі, які сваім правакацыйным паступаньнем у значнай меры выклікаў вялікі выбух народнага гневу. Але магчыма, што замест адстаўкі габінэту адбудзецца пэўнае паразуменьне пануючай ў краі хрысьціянскай дэмакратыі з сацыялістамі, маючымі ўладу ў сталічным самаўрадзе, выразам якога будзе стварэньне нейкай часовай — да рашэньня Сойму—коаліцыйнай улады, ці „дырэкторыі“, у склад якой увойдуць прадстаўнікі сацыялдэмакратаў.

У сераду якраз меліся адбыцца ўрачыстыя хаўтуры ахвяраў крывавых разрухаў. Дык павадыры сацыял-дэмакратаў, Зэйтц і Баўэр, націскалі на Зэйпля, каб хутчэй згаджаўся на іх дамаганьні. Інакш яны пагражалі, што — у сераду могуць ізноў узнавіцца разрухі. З гэтага відаць, што сацыялісты—з аднаго боку памагаюць ураду буржуазіі задушыць работніцкі рух, а з другога—шантажуюць буржуазію, страшучы яе ўзнаўленьнем гэтага руху, — калі тая не дапусьціць іх да ўлады.

### Адозва сацыял-дэмакратаў да работніцкага насяленьня Вены.

Сацыял-дэмакратычная партыя Аўстрыі і прафэс. саюзы зьвярнуліся да работніцкага насяленьня Вены—з адозвай. Адозва перасьцерагае работнікаў, каб яны не паддаваліся правакацыі камуністаў, якія хочуць падняць работніцкую клясу на паўстаньне. Паўстаньне гэтае прывяло-б толькі да хатняй сацыяльнай вайны, у якой работніцкая кляса была-б быццам—разгромлена буржуазіяй у саюзе з рэакцыйным ды клерыкальна настроеным сялянствам. Бо наагул у правінцыі хрысьціянскія дэмакраты маюць яшчэ вялікую сілу. Хатняя вайна выклікала-б, апрача дарэмнага праліцьця крыві, яшчэ страшэнную гаспадарчую катастрофу ў краі, голад, беспрабоцьце, урэшце, можа-б, і — канец усей Аўстрыйскай самастойнай Рэспублікі, дый—панаваньне фашызму, як у Італіі ды Вэнгрыі.

Вось-жа мусім канстантаваць, што сац.-дэмакратыя — сьведама разьбівае работніцкі фронт, зьяўляецца працаўніцай сацыяльнай барацьбы, баіцца гэтае барацьбы і страшыць работніцкую клясу цяжарам яе, прыкрываючыся да таго-ж патрэбай захаваць рэспубліку (значыць—буржуазную!).

Вось да чаго даходзяць сацыял-дэмакраты, навет аўстрыйскія, якія да гэтага часу хоць маталіся між буржуазіяй і работніцтвам, стаўшы цяпер выразна на бок першай.

Відаць, навучыліся ў ППС.

### Хаўтуры ахвяраў паўстаньня работнікаў.

20 га ліпня мелі адбыцца ў Вене хаўтуры ахвяраў паўстаньня. Хрысьціянская дэмакратыя (ўрад) згаварылася з сацыял-дэмакратамі, каб не рабіць з гэтых хаўтуроў—лішняй „небясьпекі для цішыні і спакойства“ ў месьце, а дзеля таго пастанавілі—ня пускаць на хаўтуры работніцкіх масаў. На хаўтуры будуць дапушчаны толькі крэўнякі ды сваякі забітых і дэлегаты работніцкіх арганізацыяў. Работнікі павінны будуць у гэты дзень працаваць на фабрыках. У 2 гадз. папаўдні ўсякі рух і праца у месьце будзе спынена на 15 мінут—у знак жалобы.

### Яшчэ спрачаюцца, ці ўжо дагаварыліся?

Павадыры сацыял-дэмакратыі ўсьцяж таргуюцца з рэакцыйным урадам кс. Зэйпля, якому памаглі ўсьміраць паўстаньне работнікаў,—аб цане за гэтую дапамогу. Але ўрад, становішча якога цяпер—пасьля ўсьмірэньня „бунту“ — ізноў стала сільным, робіцца ўсё больш няўступлівым. Згодна апошніх тэлеграмаў — урад рашуча адмовіўся ствараць нейкі „надзвычайны тымчасовы орган улады“, якога трэбуюць павадыры сацыялістаў. Ен кажа, што ўсё вярнулася да нармальнага стану, дык ніякіх надзвычайных мераў ужо ня трэба,—бо-ж—існуе законны ўрад. Вось, зьбярэцца парлямант, тады ён, разглядзеўшы палажэньне, зробіць сам патрэбныя перамены. Урад мае ў парляманьце большасьць, дык ясна, што без яго—дый яшчэ пад націскам работнікаў — ня хоча ўступаць сацыялдэмакратыі ані часткі ўлады, дый яшчэ — у гэткі гарачы мамэнт.

Сацыял-дэмакраты таксама дамагаюцца хутчэйшага скліканьня парляманту, бо можа — ня менш хрысьц. дэмакратаў баяцца ў значнай меры зрэвалюцыянізаваных дый выйшаўшых з пад іх павадырства — работніцкіх масаў... Але ўрад, ад якога залежыць скліканьне парляманту, паставіў умову: спыніць чыгункавую забастоўку... Сацыял-дэмакраты з ахвотай споўнілі-б гэтую ўмову, калі-б гэта... залежала ад іх... Але, як высьвятляецца ўсё больш, апрача дзьвюх гэтых сілаў, якія паразумяваюцца: ураду і сацыял-дэмакратычнай партыі, ёсьць яшчэ адна сіла, якой абедзьве першыя баяцца найбольш, проці якой яны і заключылі абаронны і наступальны саюз... Гэтая сіла—радыкальныя масы работнікаў, рэвалюцыйны пралетарыят, над якім сацыялісты амаль не палком страцілі ўплывы, якія ўсё больш пераходзяць да — камуністаў...

I вось, гэтыя работнікі — адмаўляюцца спыніць забастоўку на чыгунках, дамагаючыся больш рэальных гарантыяў ад буржуазнага ўраду і яго сацыялістычных саюзьнікаў. Гэтыя работніцкія масы дамагаюцца — перадусім строгага сьледзтва ў справе паступаваньня паліцыі ў часе разрухаў, сьледзтва — з учасьцем прадстаўнікоў ад работнікаў. Работнікі выстаўляюць яшчэ рад трэбаваньняў — палітычных і эканамічных, і толькі пасьля адказнай заявы, што яны будуць споўнены, дакляруюць спыніць забастоўку.

### Поўнае паразуменьне.

Апошнія тэлеграмы кажуць, што паразуменьне між абедзьвюма дэмакратыямі — хрысьціянскай і сацыяльнай — поўнае: сацыялісты зламалі забастоўку чыгуншчыкаў, а ўрад з свайго боку зараз-жа склікаў парлямант. 19-га ліпня пушчаны ў ход усе цягнікі пад Венай, 20 — зьбярэцца парлямант. Рэвалюцыйныя масы работнікаў — рашуча адсунуты — дачасу — у цёмны кут...

20 га ліпня — перад зборам Сойму — паразуменьне дзьвюх дэмакратыяў — хрысьціянскай і сацыяльнай — яшчэ паўнейшае. Сацыял-дэмакраты адмовіліся ўжо ня толькі ад трэбаваньня адстаўкі ўраду Зэйпля, але навет ад звальненьня начальніка венскай паліцыі, Шобэра... Ясна, што парляманцкая сэсія будзе мець харатар толькі „ўрачысты“: для віду сацыялісты будуць крытыкаваць „востра“ ўрад хрысьц. дэмакратыі, але па сутнасьці супольны фронт з ім — проці рэвалюцыйнага пралетарыяту, ці камуністаў — будзе толькі замацаваны...

### Як падзеялі здарэньні на міністэрства справядлівасьці.

Венскія газэты паведамілі, што пракуратура падала пратэст на прысуд Акружнага Суду, які звольніў ад адказнасьці сябраў нацыяналістычных баёвак, забіўшых некалькі работнікаў... Як ведама, гэты правакацыйны прысуд буржуазнага суду і выклікаў бліжэйшым спосабам выбух гневу ў работніцкіх масах... Трэба было, значыць — спаліць увесь гмах „міністэрства справядлівасьці“, кінуць у крывавыя ахвяры тысячы людзей, зьнішчыць на мільёны рознага дабра, каб пан пракурор венскага суду зразумеў урэшце крыўду для справядлівасьці, якую ён афіцыяльна прадстаўляе для ўсіх роўна ў дзяржаве ды — падаў свой пратэст... А чаму-ж урад не загадаў свайму пракурору пратэставаць агідны прысуд суду перад гэтым выбухам, але тады, замест задавальненьня справядлівасьці — паслаў на пратэставаўшых работнікаў, — замест пракурора — паліцыю, кулямёты, войска?... Слушна дамагаюцца радыкальныя работнікі — скасаваньня назаўсёды магчымасьці істнаваньня такога ўраду наагул... Бо — гэта толькі, але не паразуменьне з ім, на якое ідуць сацыялдэмакраты, — дасьць гарантыю, што ніколі больш не паўторацца падобныя здарэньні...

### Арышты „агітатараў“ у Вене.

У часе разрухаў, а асабліва пасьля іх „усьмірэньня“, зроблена маса арыштаў сярод работнікаў і іншых. Быццам усяго арыштавана каля 200 асоб. Сярод іх быццам 34 камуністы, у ліку якіх — 9 расейцаў. Апрача таго, 20-га ліпня паліцыя арыштавала нейкую групу балканскіх камуністаў. Яшчэ больш сэнсацыйным зьяўляецца арышт камуністычнага пасла нямецкага парляманту... Піка, які на аэрапляне прыляцеў у Вену — быццам з інструкцыямі ад нямецкіх камуністаў венскім таварышам...

Буржуазныя і сацыялістычныя газэты згодна вінаваціць у венскім разрухах — камуністычных агітатараў, якія працавалі, ну, ведамаж, — па дыктоўцы з Масквы...

### Італьянская фашыстаўская прэса пагражае Нямеччыне.

Фашыстаўскія газэты ў Італіі — з прычыны венскага паўстаньня работнікаў — пішуць рашуча, што італьянскі ўрад здолее спыніць усялякія спробы Нямеччыны выкарыстаць аўстрыяцкія падзеі—дзеля далучэньня Аўстрыі да Нямеччыны...

# Камэдыя „барацьбы“ Сойму з урадам...

„Апазыцыйныя“ клюбы разьбіліся ды правалілі справу скліканьня Сойму...

Трэба думаць, што ўрад, зьдзекуючыся ў нячуваны спосаб з Сойму, добра здае сабе справаздачу, што — можа рабіць гэта зусім бяскарна—без усялякай запраўднай пагрозы ці небясьпекі з боку пагарджанага Сойму... Чаго-ж запраўды баяцца ўраду гэткага Сойму, чаго-ж навет лічыцца з ім, калі ён, ня толькі сам аддаў свае заканадаўчыя правы ды прывілеі—сэнс і зьмест самага свайго істнаваньня—ўраду, але—ня хоча навет цяпер—у часе далейшага канфлікту—выкарыстаць для барацьбы навет тых законных способаў, якія падсоўвае яму Канстытуцыя...

Урад ізноў, легкаважучы Сойм, кінуў яму вызаў, распусьціўшы яго ў самы разгар яго працаў,—перад апошнімі галасаваньнямі, якія з яго гэтай працы мелі спарадзіць цэлы рад законаў.

Сойм мае лёгкую магчымасьць змусіць урад—зараз-жа склікаць Сойм на новую сэсію... Для гэта патрэбна толькі — 148 падпісаў. І вось,—Сойм ня можа сабраць 148 паслоў—з усяго ліку 444, якія-б падпісалі суадказную заяву да Прэзыдэнта...

Яшчэ эндэцкі клюб прынамсі зараз-жа змусіў усіх сваіх паслоў палажыць 100 падпісаў на сваей заяве. Але—папросту сьмешна, што „найапазыцыйнейшы“ клюб ППС, які асабліва пахваляўся заўсёды сваей надзвычайнай партыйнай дысцыплінай, сабраў пад сваей заявай толькі—13 падпісаў...

Пэпэсы ня хочуць падпісацца на заяве эндэцкай дзеля таго, што эндэкі паставілі ў ей, матывуючы патрэбу скліканьня Сойму,—справу зьмены выбарнага закону ў парлямант, якога зьмяняць ППС ня хочуць... Эндэкі таксама ня хочуць падпісаць пэпэсаўскай заявы да п. Прэзыдэнта—за тое, што ў ей няма пазыву на патрэбу зьмены выбарнай ордынацыі, без чаго скліканьне Сойму адразу траціць для эндэкаў усю сваю пільнасьць.

Але — што ўжо зусім агідна з пункту гледжэньня барацьбы Сойму за сваю павагу з урадам — гэта тое, што ані эндэкі сярод сваіх „фальваркаў“—хадэцкага, дубадэцкага ды пястоўскага, ані—пэпэсы сярод сваіх суседзяў—не знайшлі ані воднага, хто б хацеў паддзяржаць іх заявы ды далучыць да іх патрэбную лічбу падпісаў... Выходзіць, быццам „апазыцыйныя“ клюбы Сойму папросту абрадаваліся разьвязаньню сэсіі з захаваньнем пэнсіяў, дый ня хочуць самі новага скліканьня Сойму... — Горача, пыльна ў месьце. Добра сабе адпачыць ад дзяржаўнай працы дзесьці—наўзлоньні прыроды. — Дый яшчэ пазываючыся на „гвалт“—з захаваньнем чыстага сумленьня...

Паслухайце, як самі соймавыя клюбы адсоўваюць тэрмін скліканьня Сойму.—ППС сьпярша трэбавалі—безадкладнага скліканьня Сойму. Калі трэбаваньне гэтае падпісалі... 13 паслоў, тады клюб наагул — „упаважніў прэзыдыум рыхтавацца да будучай працы ў Сойме“... Пэпэсы навет адмовіліся падпісаць агульны ды супольны пратэст усіх паслоў проці разьвязаньня сэсіі...

Эндэкі трэбуюць скліканьня Сойму ўжо толькі на 2 жніўня. Пястоўцы, пасьля нарады, заявілі, што яны ня будуць старацца аб скліканьні новай сэсіі Сойму, лічучы зробленым перарыў—„вакацыямі“... Яны будуць дамагацца скліканьня Сойму толькі—ў канцы жніўня, ці навет — у пачатку верасьня. Такое-ж становішча занялі і іншыя фальваркі эндэцыі, а таксама і — „Вызваленьне“, і „Сялянскі Саюз“ польскіх пілсудчыкаў... Гэты апошні клюб у свае заяве — ў адказ на прапазыцыі ППС — піша выразна, што — ён усялякую „барацьбу парляманту з Прэзыдэнтам Рэспублікі лічыць недазволенай“... — запамінаючы, што Прэзыдэнт зусім не адказны палітычна, але адказны толькі ўрад, дык і барацьбу Сойм вядзе не з Прэзыдэнтам, але—з ўрадам...

Дык, калі пасьля гэткай падрыхтоўкі старшыня Сойму склікаў прадстаўнікоў клюбаў на нараду, на якую запрошаны былі толькі польскія клюбы—бяз меншасьцяў..., старшыня мог толькі сцьвярдзіць, што—ані заява ППС, ані заява Эндэцыі—не сабралі пад сабой вымаганае арт. 25 Канстытуцыі лічбы падпісаў.

Нарада пастанавіла дамагацца скліканьня Сойму толькі ў пачатку верасьня... 2 жніўня прадстаўнікі клюбаў зьбярнуцца ў Старшыні і тады азначаць дакладна тэрмін скліканьня Сойму...

Таксама правалілася думка—аб супольный адозьве паслоў Сойму, высьвятляючай увесь ход канфлікту з ўрадам і шкоднасьць яго апошняга ўдару па соймавай працы.

Каб дарысаваць „партрэт“ сучаснага Сойму, які так шмат кажа аб сваім „ганоры“, але бараніць яго на дзеле ня ўмее дый ня хоча, скажам, што—паны польскія паслы не запрашалі на свае супольный нарады прадстаўнікоў нацыян. меншасьцяў, ані прапанавалі ім падпісваць свае заявы ды адозвы.—Усё рабілася выключна ў „чыста польскім Сойме“—сярод сваіх—„прыроджаных“...

Чаму гэта?—Дык — каму няясна: бо-ж прадстаўнікі меншасьцяў маглі-ж бы запраўды ўсур'ёз прыняць усю польска-пасольскую „камэдыю барацьбы“ з урадам,—маглі-ж запраўды ўсур'ёз змусіць Сойм—бараніць свой гонар ад зьдзеку, — навет рызыкуючы яго жыцьцем...

Сойму мелі намер скасаваць рад выданых урадам вельмі крыўдных для сялянства дэкрэтаў—як дэкрэты—аб скасаваньні сэрвітутаў, аб павышаных карах за лясныя парубкі і інш. Апрача таго, распусьціўшы Сойм, урад ня даў яму заняцца справай дробных чыншавікоў на „крэсах“, законапраектам аб паніжэньні аплатаў, якія дзержаць натарыусы і г. д.

Сцьвярдзіўшы ўсё гэта, рэзалюцыя пратэстуе проці гэткага паступаваньня ўраду, заяўляючы, што адзіны выхад з палажэньня, гэта—зрабіць новыя выбары.

У канцы Галоўная Управа даручае свайму клюбу ў Сойме — вясьці надалей (?!) „энэргічную дый няўступліўую барацьбу з урадам, сьмела апіраючыся на шырокія масы сялянства“... Толькі, паколькі мы ведаем, „Вызваленьне“ дагэтуль было адзіным з вельмі нялічных клюбаў у Сойме, якія лічыліся „ўрадовымі“—бо складаліся з большасьці „завадовых пілсудчыкаў“... Ну, добра і тое што, як і пэпэсы, „празрэлі“ можа і запраўды — ня толькі на правае вока, але і на левае...

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Пэпэсы—дабіраюцца быццам да Марачэўскага.

„Рэчпаспалітая“ даведалася, быццам партыйныя ўлады ППС выслалі сябру партыі „тав. Марачэўскаму, міністру ўраду Пілсудскага, дамаганьне, каб той—або выйшаў з партыі, або кінуў міністэрскае крэсла ў урадзе, да якога ППС заявіла—„вострую апазіцыю“. Быццам, як кажа газэта, мін Марачэўскі зараз-жа, дастаўшы пісьмо ад партыі, паехаў на параду да марш. Пілсудскага...

Ну, і звычаі ўсё-ж такі ў гэтай „аднalітай ды скаванай жалезнай партыйнай дысцыплінай партыі“—польскіх сацыялістаў...

### „Вызваленьне“ таксама пераходзіць у „вострую апазіцыю“.

17 ліпня адбылося паседжаньне Галоўнай Управы „Вызваленьня“. Паседжаньне было склікана паміж іншым — дзеля таго, што адзін з галоўных павадыроў партыі пас. Панятоўскі, віцэ-старшыня Сойму,—выйшаў з партыі—бо... дастаў ад ураду добрую пасаду куратара школьнае акругі ў Крамянцы... Прывітаўшы добра „ўстроіўшагася“, дзякуючы ўраду — таварыша і падзякаваўшы яму за працу ў партыі, старшыня Управы п. Маліноўскі перайшоў да — „апазіцыйнай працы“.

Палітычны даклад прачытаў сэн. Возьніцкі, пасьля чаго прыняты гэткага зьместу рэзалюцыі:

„Галоўная Управа „Вызваленьня“ сцьвярдзіла, што ўрад ня толькі не хацеў супрацоўнічаць з Соймам, але працу Сойму легкаважыў дый навет у канцы ўнемажлівіў яе, ня гледзячы на вялікую важнасьць гэтых працаў Сойму для дзяржавы. Пералічыўшы найважнейшыя законапраекты, якія вось-вось павінны былі-б ужо стаць законамі, рэзалюцыі высьвятляюць шкодную ролю ўраду — у часе гэтых працаў і ў іх спыненьні.

Асаблівую ўвагу зьвяртае сялянскае „Вызваленьне“ на тое, што ўрад, спыніўшы працу Сойму, паміж іншым кіраваўся і інтарэсамі абшарнікаў, — бо-ж сялянскія партыі ў Сойму мелі намер...

### Міністар камунікацыяў тлумачыць сваё паступаваньне перад — Саюзам Чыгуншчыкаў...

Мін. Ромоцкі, з якім выйшаў ведамы чытачом канфлікт з павадыром дэлегацыі чыгуншчыкаў, паслом ППС Курыловічам, выдаў афіцыяльны камунікат, у якім, апісаўшы ўвесь ход канфлікту, кажа, што наагул ня можа згадзіцца на тое, каб распараджэньні міністэрства ўзалежніць ад перагавораў з працаўнікамі чыгункі...

Што ж датычыць да выпадку з п. Курыловічам, які ня ўмеў гутарыць з міністрам, дык міністар адмовіўся прадаўжаць гутарку толькі з ім, але зусім не з дэлегацыяй дый наагул не жадаў абражаць гэтым Саюзаў працаўнікоў чыгункі.

Але, як ведама, Саюзы чыгуншчыкаў пастанавілі, што канфлікт між міністрам і паслом-павадыром дэлегацыі ня меў асабістага характару, але што паступаваньне міністра—ёсьць вызаў, кінуты ўсім працаўніком чыгункі наагул. Дык Саюзы дамагаюцца сатысфакцыі (перапросінаў) з боку міністра дый—ня ўступяць у барацьбе за свае слушныя правы і дамаганьні, якіх міністар ня хоча слухаць. Канфлікт, відаць,—пашыраецца ды паглыбляецца...

### Генарал Гурэцкі, як—„эканаміст“...

„Варшавянка“ дае кароткі нарыс апошніх гадоў жыцьця новага польскага „эканаміста“ ген. Гурэцкага, якога толькі „фаховы“ ўрад марш. Пілсудскага назначыў — старшынёй Банку Краёвай Гаспадаркі. У часе вайны генарал Гурэцкі быў капітанам у польскіх легіёнах ген. Галера, якія біліся ў аўстрыяцкай арміі проці саюзьнікаў... У 1918 г. ён, разам з іншымі легіянерамі, перайшоў на бок саюзьнікаў, за што быў завочна, як здраднік засуджаны аўстрыяцкім ваенным судом у Маршмарош Сігеце. У 1919 г. б. аўстрыйскі капітан быў зроблены польскім палкоўнікам, у 1924 г. быў назначаны генаралам, а цяпер—прэзэсам Дзяржаўнага Банку.

Трэба думаць, што ў аўстрыяцкай арміі п. Гурэцкі быў простым афіцэрам—ваенным фахоўцам, які ня цікавіўся залішне эканамічнымі справамі, дый яшчэ і ў дзяржаўным маштабе... Дык відаць усю сваю падгатоўку да гэтай адказнай ролі здолеў выправіць ужо ў Польшы. Але ў Польшчы ген. Гурэцкі быў толькі добрым вайсковым адміністратарам, пасьля сумленным шэфам корпусу ваенных кантралёраў... Дык пакліканьне яго на становішча кіраўніка Банку Краёвай Гаспадаркі, дзе трэба грунтоўна ведаць і банкавае дзела, і грашовы рынак, і наагул розныя галіны краёвай гаспадаркі, мець у-ва ўсім гэтым дасьлед тэорэтычны і практычны,—„Варшавянка“ лічыць слушна толькі лішняй праявай таго „лёгкаважэньня паважнай галіны дзяржаўнай працы“, якім адрозьніваецца сучасны „фаховы“ ўрад...

### Нячуваныя рэчы...

Газэты паведамілі, што генарал Гурэцкі з свайго боку назначыў начальнікамі розных аддзелаў гэтага банку — 5 ахвіцэраў, якія служылі пад начальствам ген. Гурэцкага ў ваенным міністэрстве... Трэба думаць, што ўсе 5 гэтых дырэктароў гаспадарчага банку — такія-ж „эканамісты“, як і сам яго генарал-старшыня...

Газэты дадаюць, што ў Варшаве гэтыя назначэньні тлумачаць — намерам дастасаваньня працы банку Краёвай Гаспадаркі да фінансаваньня ў першую чаргу — ваеннай прамысловасьці ў Польшчы...

Ну, тады—прынамсі ясна, што значыць цяпер у нас — „краёвая гаспадарка“.

## Заграніцай.

### Ізноў зьмена на горшае ў вызваленчай барацьбе ў Кітаі.

Запраўды-ж, калі-б павадыры кітайскай барацьбы за вызваленьне хацелі навучыцца добрай палітыкі, якая давала-б пэўную перамогу арміям на фроньце, дык у сучасным новым павароце ваеннага шчасьця Чанг-Кай-Шэка маглі б здабыць для сябе—дасканалую лекцыю. Чанг-Кай-Шэк заўсёды і ўсюды перамагаў, калі дзяржаўся — яўна ці тайна — еднасьці з радыкальным крылом Куо-Мін-Тангу, — уваходзіў у ваенна-палітычнае паразуменьне з яго арміямі. Апошнія вялізарныя пасьпехі яго арміяў, якія амаль не закончыліся ўжо поўным разгромам усіх ваенных сілаў японскага найміта Чанг Тсо-Ліна, былі папярэджаны поўным ваенным паразуменьнем ды супольным фронтам—ня толькі з ген. Фэнгам, але і з ханькоўскімі ваеннымі сіламі—лявіцы Куо-Мін-Тангу... Ген. Фэнг быў лучнікам, цэнтрам, які зьвязваў абодва крайнія флангі, беспасрэднае паразуменьне якіх—пасьля ўсяго таго, што нарабіў Чанг-Кай-Шэк у Шанхаі проці работніцкіх арганізацыяў,—было амаль-што немагчыма...

Але, атрымаўшы — дзякуючы адзінаму ваеннаму фронту проці Чанг-Тсо-Ліна—вялізарныя над ім пасьпехі, Чанг-Кай-Шэк не дацэніў значэньня гэтага паразуменьня дый зноў пачаў трэбаваць ад ген. Фэнга — „душэньня камунізму“... Ген. Фэнг, які—у паразуменьні з Ханькоў—узяў на сябе галоўнае камандаваньне ўсімі ваеннымі сіламі радыкальнага крыла Куо-Мін-Тангу, зразумела, ня мог зрабіць гэткай здрады сваіх саюзьнікаў, адмовіўся. Тады Чанг-Кай-Шэк заявіў, што „здушыць камунізм“ у Ханькоў—сам... І вось, як здурнеўшы, пачаў пераможны павадыр усіх вызваленчых арміяў Кітаю „зьніштажаць Ханькоў“—той самы Ханькоў, якому ў значнай меры абавязаны быў сваей перамогай над Чанг-Тсо-Лінам...

Зразумела, што гэткая недарэчная дывэрсія проці свайго-ж уласнага саюзьніка ў абліччы яшчэ грознага (дзякуючы стоючай за ім Японіі і іншых імпэрыялістаў) ворага, павінна была фатальна адбіцца на фроньце для ўчарашняга пераможца... І запраўды-ж—павярнуўшы фронт ад Чанг-Тсо-Ліна на Ханькоў, Чанг-Кай-Шэк, як кажуць тэлеграмы, павінен быў—ня толькі спыніць усё наступленьне на поўнач, але і — ачысьціць усю вялізарную ды важнейшую ў стратэгічным сэньсе правінцыю Шантунг, ужо заваяваную цалком... „Войскі Чанг-Тсо-Ліна з бранíраванымі цягнікамі занялі ізноў усе месты Шэнтунга“. З свайго боку, ген. Фэнг змушаны быў бараніць сябе ды свае левае ханькоўскае крыло арміі. „Ген. Фэнг, кажа тэлеграма з Цянь-Дзіна, зрабіў спробу выклікаць бунт сярод войскаў Чанг-Кай-Шэка, які скончыўся без пасьпеху“... Страшэннае абурэньне тактыка Чанг-Кай-Шэка выклікала і ў Ханькоў.

Вестка аб „спробе бунту“ у войсках Чанг Кай-Шэка — асабліва характэрна. Ясна, што тыя сацыяльныя матывы нацыянальна-вызваленчай барацьбы паўдзённых арміяў проці Чанг-Тсо-Ліна, якія складаюць блізкую і зразумелую ідэолёгію народных арміяў, якраз і даюць ім маральную перавагу і перамогу над найміцкімі арміямі Чанг-Тсо-Ліна. Дык здрада гэтай ідэалёгіі народна-вызва-

# Маленькі фэльетон.

## Шуму многа—толку мала!

„Было-б балота, а чэрці заўсёды будуць“.
(Народная прыказка).

Паслы Ярэма і Рабуля шчыльна замкнуліся ў асобным габінэце і думалі.

Ад вялікай натугі думак Ярэма соп, як паравік. Пуза яго траслося, як вогненая гара, а заплыўшы салам твар абліваўся густым потам.

Дарэмна стараўся Ярэма што небудзь выдумаць. Розум яго зусім разьмяк ад сьпякоты і не хацеў быць паслухмяным свайму гаспадару.

Ен зяўнуў і думаў сам сабе:

— Цяжка жыць на сьвеце вялікаму палітыку, вось такому, як я, але затое карысна. У мінулым годзе купіў сабе дачу, а яшчэ гадкоў з пару паслом пабуду, дык і камяніцу ў Вільні куплю, а там... самаход жонцы...

Эх, каб хоць зноў паслом выбралі!

Але ці выберуць?!—гэта думка гіпнотызавала і тэрорызавала Ярэму.

Ня вераць нам больш сяляне. Чым-жа іх зноў ашукаць?

І Ярэма думаў, думаў і думаў...

І ад вялікіх думак задрамаў.

А Рабуля, як падстрэлены зьвер, нэрвова бегаў з кута ў кут. Ен ня ўмеў моўчкі думаць і гаварыў сам сябе:

— *Нѣтъ, ужъ мужичковъ ничѣмъ больше не обманешь*! Надовячы быў я на вечу і казаў я ім: запісвайцеся ў „Сялянскі Саюз“, дык усім, хто запішацца, зямлю дарма, бяз выкупу, значыцца, даваць будзем.

*А мужички въ отвѣтъ*:

— Далоў яго! Прэч! Вон! Даволі ашуканства! Нам зямлю бяз выкупу дакляруе, а сам, нябось, гэтага не чакаў. Пакуль тая зямля бяз выкупу будзе, дык сабе зямлі больш валокі купіў.

І далей крычаць:

— Даволі нас вадзіць за нос са сваім „Сель-Саюзам“!

Я апраўдвацца, а яны, хто за ногі, хто за полы дый з возу. Ледзь жывы з духам уцёк.

Ярэма ўсё драмаў і казаў праз сон: „камяніцы“, самаходы, радыё, грамафоны“...

— Хай будзе пахвалёны!—сказаў увайшоўшы ксёндз Мадам.

Паслы кінуліся яму на шыю.

— Войчанька наш Мадаме! Збаўца, дабрадзей, уцечка наша!

Ратуй нас грэшных!

— З вялікай навінай прыйшоў я да вас, панове паслове. Сёньняшняй ночы зьявіўся мне ўвасьне анел і зьвяставаў мне, што трэба забраць у свае рукі Беларускі Нацыянальны Камітэт.

— Гэ-гэ-гэ!—зарагатаў Ярэма і заміргаў сваімі маленькімі вочкамі.

— Гэта *сумашедшая* ідэя, войча — сказаў Рабуля. Камітэт-жа ня ў нашых руках.

— Дык трэба зрабіць, каб быў у нашых.

— Як?

— Забраць сілай?

— Нашто сілай. А вось так паезуіцку: хітрасьцяй, спадцішка. Маю я з дзесятак паслушных мне людзей, якіх мы кормім, дык тыя ані піснуць проціў таго, што я ім камандую. Склічам іх на сход, ды свой „Беларускі Нацыянальны Камітэт“ заложым.

— А што на гэта скажа праўдзівы Камітэт?—зяўнуў Ярэма.

— А хай сабе кажа, што хоча. Ці-ж гэта пяршыня нам, ці што?! Дзякаваць Богу, розныя штучкі мы выкідаць умеем, — дык цяпер і з Нацыянальным Камітэтам зрабіць зможам!

— Гэ-гэ-гэ, вось, дык галава! — узрадваўся Ярэма.

— Рабі, войчанька, што хочаш, — мы твае паслы паднявольныя, — з паклонам сказаў Рабуля.

У той самы вечар адбыўся „агульны сход“ паднявольных. Ярэма казаў „прамову“, а пасьля выняў з кішані загадзя напісаную ксяндзом Мадамам „рэзалюцыю“ і загадаў галасаваць.

Ксяндзоўскія нявольнікі падняді рукі.

— Аднагалосна! — сказаў сэкрэтар Балдакевіч, ня гледзячы і ня лічучы рук.

— На старшыню ксяндза Мадама! — загучэлі яго падхлебнікі.

— Не, мае парахфіяне,—адказаў кс. Мадам, — мне арцы-біскуп забараніў займацца палітыкай, дык я адкрыта выступаць не магу, а толькі спадцішка—тайна. Замест мяне, на старшыню я даўно абдумаў сэнатара Балдановіча. Ен, бачыце, *русско-бѣлорусскій человѣкъ* і спрытна можа служыць і „нашым“ і „вашым“.

Мы, ксяндзы, памолімся, а Бог дасьць, што ў Расеі зноў *царь-бацюшка* будзе, дык тагды сэн. Балдановіч нам ой-ей як прыдасца. Мы тады ўсё знойдзем у цара і ласку і службу...

— Я хачу быць міністрам тэлефонаў!—гукнуў Ярэма.

— А я—менскім губэрнатарам!—перабіў Рабуля. Вось, тады буду зьдзекавацца над беларускімі кніжкамі.

— А я — дэпутатам у *Государственную Думу*—крыкнуў Балдакевіч.

— Гура!..—крыкнулі ксяндзоўскія нявольнікі.

— *Боже царя храни*!.. — прапяяў сэн. Балдановіч.

— Ну, а цяпер прашу да маіх пакояў,—запрапанаваў Ярэма. Вып'ем, закусім, чым Бог паслаў.

На гары хлопалі коркі. Зьвінелі чаркі і чуцен быў крык:

— *За единую и недѣлимую матушку Россію*!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Позна вечарам, кладучыся спаць, кс. Мадам змовіў пару лішніх пацераў „на інтэнцыю“ нова-заложанага сфальшаванага „Нацыянальнага Камітэту“.

А сэнатар Балдановіч хваліўся жонцы:

— *Я вѣдь говорилъ, что объегорю дураковъ, ну и объегорилъ*! — меня старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэту зрабілі, а з мяне гэтакі беларус, як з пасла Ярэмы прафэсар!

Кузьма Дубец.

ленчай вайны з боку Чанг-Кай-Шэка ня толькі выклікае непасьпех яго на фроньце, але стварае і вялізарную небясьпеку для яго і ў лоне яго арміяў,—раскладаючы іх баявы пераможны дух, унутраную дысцыпліну, жаданьне пабеды.

З вышэйшага разгляду апошніх здарэньняў на фроньце кітайскай хатняй вайны—ясна, што новая фатальная тактыка Чанг-Кай-Шэка можа запраўды-ж загубіць усё, так бліскуча падыходзіўшае ўжо да блізкага канца дзела нацыянальнага і сацыяльнага вызвальньня кітайскага народу. Калі гэтае дзела — немагчыма без баявой волі шырокіх масаў народу, які выдзяляе з сябе свой баявы орган — армію, дык ясна, што зьніштажаць найбольш рашучыя элемэнты гэтай баявой волі народу—у час недаконачанай яшчэ вайны, — гэта-ж найбольш агідная ды недарэчная правакацыя — на правал усей распачатай вялікай справы вызваленьня. Гэткая правакацыя можа быць роблена толькі пад дыктоўку—самых зацятых ворагаў кітайскага народу—англійцаў. Японцы, і тыя дзеюць хоць на шкоду Кітаю, але прынамсь—адкрыта: даюць аружжа Чанг-Тсо-Ліну, кажуць самі, што ў часе патрэбы—падтрымаюць яго навет сваімі войскамі. Але англійцы, як заўсёды, дзеюць цішком, падкупам, правакацыяй, прыкідваючыся прыяцелем народу. Дый—ці-ж можна новы паварот Чанг-Кай-Шэка вытлумачыць чым іншым, як — англійскай правакацыяй.

## Барацьба Эгіпту за вызваленяне з-пад англійскага панаваньня.

Пакуль пасаджаны Англіяй на Эгіпэцкі пасад кароль Фуад прымаецца з нячуванымі ганорамі ў Лёндане, каб гэткай „чэсьцю для яго караля“ падкупіць эгіпэцкі народ на карысьць англійцаў, дома, у краі, эгіпэцкі ўрад усьцяж вядзе страшэнную барацьбу проці поўнага апанаваньня англійцамі Эгіпту, якому Англія толькі-што (у 1922 г.) — „гарантавала дзяржаўную незалежнасьць“...

Нашыя чытачы ведаюць, што апошні канфлікт між Эгіптам і Англіяй выкліканы быў цалком англійцамі, якім паказалася яшчэ мала ўсей тэй улады, якую яны маюць у Эгіпце. Англійцы патрэбавалі, каб уся ваенная сіла, усе войска і флёт, краю была цалком аддзелена ад усяго ўплыву... эгіпэцкага ўраду і парляманту, ды аддана — пад выключны загад англійскага інспэктара, які ўва ўсіх патрэбных выпадках будзе паразумявацца толькі з каралём... Усе крэдыты на гэтую армію павінны ісьці — муравана — проста ў рукі гэтага англійскага інспэктара, а адчот у выдатках ён здае толькі ізноў аднаму каралю... А ведама-ж, — гэты кароль—„прыяцель“, ці папросту — найміт Англіі...

Проці гэткага парадку ў „незалежнай дзяржаве“ рашуча паўстаў парлямант і ўрад. Узьняўся рэзкі канфлікт. Англійцы прыгразілі ваеннай акупацыяй Эгіпта ды бамбардыроўкай яго местаў з мора. Парлямант аднакжа не спалохаўся ды патрэбаваў новых выбараў, каб паклікаць у судзьдзі — сам народ, дый атрымаць ад яго новыя сілы для барацьбы... У той-жа час англійцаў пачалі страшэнна біць і ў Кітаі... Дык, Англія ўступіла... Замест адкрытага гвалту — сваім звычаем—пусьцілася на хітрасьці ды падкупы... Караля запрасілі ў Лёндан і г. д. Далей мы ведаем. А вось цяпер з Эгіпту пішуць, што з англійскіх забегаў нічога ня вышла. Парлямант цьвёрда стаіць на сваім дый апрацаваў новы — свой праект у справе краёвай арміі, які ў сутнасьці зьяўляецца — дамаганьнем поўнага скасаваньня ваеннай акупацыі англійцамі Эгіпту. Гэты праект урад паслаў... каралю ў Лёндан, каб там абгаварыў яго з англійскім урадам... Эгіпэцкі ўрад згаджаецца толькі на тое, каб у краі асталіся толькі паветраныя сілы англійцаў. На англійскія войска ўрад і парлямант рашуча адмаўляюць крэдытаў. Новы праект прадбачыць, што ў бліжэйшым часе ў Эгіпце астанецца толькі — англійская ваенная місія, як у кожнай запраўды незалежнай дзяржаве... Гэткім чынам — у рэзультаце вострага канфлікту — замест далейшага паняволеньня Эгіпту спараджаецца яго — запраўднае вызваленьне... І гэта — дзякуючы таму, што эгіпэцкі народ і яго парлямант — не спалохаліся барацьбы на сьмерць з англійцамі.

Тады англійцы ўступілі, бо ваяваць яны—ня могуць... Трэба дадаць, што праект гэты, вызваляючы Эгіпт з ваеннага засільля Англіі, яшчэ трэба правясьці.. Барацьба будзе яшчэ цяжкая ды доўгая... Але — што ў канцы пераможа Эгіпэт ды яго цьвёрда жадаючы волі Народ, — у гэтым ня можа быць сумляваньня,

## Каўцкі аб барацьбе Англіі з „бальшавізмам“.

Як ведама, павадыр нямецкай сацыялдэмакратыі Каўцкі, знамяніты вучоны — эканаміст і сацыялёг, зьяўляецца заклятым ворагам камунізму і расейскіх бальшавікоў. Дык—тым больш цікаўным зьяўляецца ацэнка гэткага дасьледчыка—ролі Англіі (англійскай імпэрыялістычнай буржуазіі) ў барацьбе з расейскім бальшавізмам. — Паслухаем-жа, што кажа гэты п. Каўцкі.

На запытаньне армянскіх рэвалюцыянераў, ці павінны яны — у барацьбе Англіі з Радавай Расеяй—стаць на бок Англіі, Каўцкі адказаў так: „Расейскі народ не падазравае, а работнікі і сяляне не даб'юцца палітычных свабодаў, пакуль ня будзе ўведзены ў Расеі дэмакратычны лад. Але дыктатура бальшавікоў можа быць скінута толькі паўстаньнем народных масаў. Што ж датычыць імкненьняў Англіі, дык ёй ідзе перадусім аб тое, каб палітычна і эканамічна аслабіць Расею, каб расхістаць у ёй істнуючы лад — дзеля таго, каб яна не магла энэргічна выступаць ды перашкаджаць Англіі — у Азіі, перадусім—у Кітаі... Наагул пакладацца на Англію ня можна ніколі: дапяўшы свайго, яна ў крытычны мамэнт папросту кіне сваіх памочнікаў ды саюзьнікаў проці бальшавікоў ці—Расеі—на волю лёсу...

Гэта—палітычны бок справы. Але ёсьць і—сацыяльны бок.—Ня трэба забывацца, што цяпер у Англіі мае ўладу—ярка рэакцыйны ўрад Балдвіна, які стаіць на чале ваяўнічай імпэрыялістычнай буржуазіі (фашыстаўскага тыпу).—Гэтая фашызаваная англійская буржуазія паддзержвае ўсімі спосабамі ўсе асяродкі рэакцыі ў Эўропе: фашыстаўскі ўрад Мусоліні, феадальную дыктатуру ў Вэнгрыі (можна было б налічыць яшчэ шмат такіх асяродкаў — бліжэйшых да нас геаграфічна і палітычна... Рэд.). Дык ясна, што саюз рэвалюцыянераў з англійскім урадам быў-бы саюзам — з заклятымі ворагамі працоўных... І гэта трэба добра зразумець... — зразумець, да чаго ўрэшце паступова давёў-бы гэткі саюз і перамога англійскага імпэрыялізму...

Так адказаў армянскім сацыялістам, якія змагаюцца з бальшавікамі, люты вораг гэтага бальшавізму Каўцкі...

## Замах на англійскае консульства ў Ніццы.

У Ніццы перад будынкам англійскага консульства кінута бомба. Бомба разарвалася, але вялікіх шкодаў не зрабіла.

## Арышт павадыроў францускіх камуністаў.

Францускія ўлады арыштавалі і пасадзілі ў турму 2 павадыроў камуністычнай партыі—Кашэна і Дорыё, якія былі выданы парлямантам, як засуджаныя судом, але не хацелі быццам (!) дабравольна адбыць кару. Так даносіць „ПАТ“.

## Новы парлямант у Румыніі пачаў працу.

Новастворанып апошнімі выбарамі румынскі парлямант сабраўся на першае паседжаньне. Прэм'ер Брытыяну прачытаў ад імя хворага караля яго „тронавую прамову“, якая вельмі кароценькая, кажа ў агульных выразах—аб патрыятызьме паслоў, заклікаючы іх да працы для дарагой айчыны, якой кароль—„аддаў усе сваё жыцьцё“...

## Памёр румынскі кароль.

Нарэшце—пасьля доўгай хваробы і некалькіх „спробаў паміраць“, памёр такі румынскі кароль Фэрдынанд. Трэба спадзявацца паважных разрухаў у сувязі з справай наступніка трону. Бо, як ведама, першы сын нябожчыка быў пазбаўлены правоў на трон—за сваё „некаралеўскае“ жыцьце, а перадусім—за тое, што сам сабе выбраў па сэрцы жонку—не з каралеўскага роду... Але гэты „пазбаўлены правоў“ каралевіч, здаецца, мае больш прыхільнікаў, чым яго малодшы брат, якога нябожчык кароль зрабіў афіцыяльна наступнікам трону.—Дык можа выйсьці—дынастычная рэвалюцыя, якая можа давясьці і да... дынастычнай катастрофы...

## Былы грэцкі дыктатар ген. Пангалёс уцёк з вастрогу заграніцу.

Былы дыктатар Грэцыі ген. Пангалёс, проці якога выбухла „рэвалюцыя“, пасадзіўшая яго ў турму, здолеў аднак-жа ўцячы з турмы ад рыхтаванага над ім суду. Генарал Пангалёс быў павадыром тых яшчэ вельмі сільных у Грэцыі — дый ці-ж у ёй аднэй—манархічных элемэнтаў, якія ўжо баяцца выступаць адкрыта, як манархісты, адкладаючы спаўненьне сваіх лятуценьняў на—„лепшыя часы“. Дык ясна, што гэтыя закулісна-уплывовыя манархічныя элемэнты і дапамаглі свайму павадыру—уцячы ад народнага суду.

## Вялікія манэўры паветранага флёту ў Радах.

З Масквы пішуць, што ў цэлым радзе мясцовасьцяў ССРР адбыліся вялікія манэўры паветранага флёту. Былі інсцэнізаваны напады паветраных „няпрыяцельскіх“ эскадраў на вялікія месты, якія пасьля „бою“ былі адбіты—абаронным флётам ССРР.

## На што будзе ўжыты карабель, на якім езьдзіў цар Мікалай.

Радавыя ўлады аддалі ў грунтоўны рэмонт раскошную яхту (лёгкі карабель) „Штандарт“, на якой рабілі свае вясёлыя падарожжы расейскія цары. Гэтая яхта мае быць пасьля рэмонту прадана аб'яднаньню работніцкіх прафэс. саюзаў, якія маюць арганізаваць на гэтай былой царскай яхце—навуковыя ды лячэбныя марскія падарожжы работнікаў заграніцу.



# ХРОНІКА.

**Кандыдатура пасла Рака-Міхайлоўскага на становішча прэзыдэнта м. Вільні.** Мясцовыя газэты паведамляюць, быццам сярод некатарых радных места Вільні ўзьнікла думка высунуць кандытатуру пасла Рака-Міхайлоўскага, які сядзіць у Вронках, — на становішча галавы места Вільні. Як ведама, выбраны галавой адвакат Ледніцкі, падзякаваўшы за чэсьць, аднак-жа адмовіўся ад прапазыцыі перабрацца ў Вільню з Варшавы, дзе ён зарабляе вялізарныя грошы.

**Новы прэзыдэнт м. Вільні.** У апошнюю хвіліну надыйшлі весткі, што на паседжаньні мястовай Рады 21.VII выбраны прэзыдэнтам места цяперашні Камісар Ураду на м. Вільню п. Я. Фалееўскі.

На лаўнікаў выбраны—др. В. Малішэўскі, Я. Локацієўскі (эндэк), Р. Абрамовіч (жыд.-нацыяналіст) і Я. Жэймо (пэпээс).

Падробнасьці выбараў будуць паданы ў чародным нумары.

**Да біографіі п. Чыжа.** У дадатак да папярэдніх уваг аб кар'еры новага віцэ прэзыдэнта м. Вільні, падаём яшчэ жменьку фактаў з яго папярэдняй дзейнасьці.

П. Чыж пачаў сваю кар'еру пэпээсам. Пасьля, калі меў палітычны працэс, і П.П.С. адмовілася перапрaвіць яго заграніцу, ён перакінуўся да... беларусаў і супрацоўнічаў у „Нашай Долі“ (Чыжук Ашмянскі) Беларусы-ж памаглі яму ўцячы ў Галічыну, у Львоў. Праз пару гадоў вярнуўшыся з Львова, усё яшчэ як беларус, ён быў рэд. „Нашай Нівы“ высланы ў Кіеў, каб там вясьці беларускі аддзел у часопісі ўкраінскага дзеяча Ліпінскага „Przegląd Krajowy“ ў польскай мове.

Калі часопісь закрылася, Чыж вярнуўся ў Вільню, дзе паступіў на службу да абшарнікаў у Сельска-гаспадарчае Т-ва (T-wo Rolnicze), ужо як добры паляк, парваўшы ўсякую сувязь з беларускім рухам.

У часе нямецкай акупацыі быў камісарам мясцовай міліцыі. Калі гэтую міліцыю немцы ўзялі ў свае рукі, усе ідэйныя дэмакраты выступілі з яе. А п. Чыж астаўся там ужо платным камісарам міліцыі і верай і праўдай служыў акупантам.

У тым-жа часе ў варшаўскай прэсе зьмяшчаў стацьці, поўныя брахні і інсынуацыяў аб беларускім руху.

Пасьля нямецкай акупацыі заняўся гандлям і стаўся адным з стаўпоў эвангеліцка-рэфармаванага касьцёлу, ад імя якога езьдзіў на паклон да п. Прэзыдэнта

Адначасна п. Чыж пачаў выступаць ізноў, як пэпээс і навет, як адзін з павадыроў віленскага аддзелу, дзякуючы чаму быў выбраны ў Мястовую Раду і на становішча віцэ-прэзыдэнта.

Як відна — кар'ера ніштo сабе!

**Расьце культурная Беларусь.** У бягучым годзе акончылі Віленскі Унівэрсытэт беларусы: **Мікола Марцінчык** з тытулам доктара ўсіх лякарскіх навукаў і **Адольф Зянюк** з тытулам магістра праў. З Прагі вярнуліся на Бацькаўшчыну, скончыўшы Праскую Тэхніку, гр. гр. **Міхал Ігнатовіч**, **Аляксандар Сасноўскі** (лясныя інжынэры) і **А. Малевіч** (аграном).

**Брэшуць далей.** „Сялянская Ніва“, падаючы вестку аб сходзе запраўднага Нац. Камітэту 14.VII.—(у крыміналістых гэты сход зьяўляецца нелегальным!) падае яўна хлусьлівую вестку, што на гэтым сходзе было мала прысутных.

Каб паінфармаваць грамадзянства, гэтым падаём да ведама, што на гэтым сходзе былі прысутныя прадстаўнікі ўсіх беларускіх грамадзкіх установаў, якія ўваходзілі ў склад Нац. Камітэту з самага пачатку яго заложэньня, апроч прадстаўнікоў трох палітычных партыяў — Грамады, як зьліквідаванай Урадам, ярэмічаўскай часткі сельсаюзу ды хадэцыі, якія адлучыліся ад Камітэту самахоць.

Паймённа былі прадстаўлены на сходзе:

1) ад Т-ва Белар. Школы—гр. І. Савіцкі, Н. Калядзянка і І. Дварчанін;

2) ад Беларускага Навуковага Т-ва — гр. А. Луцкевіч і В. Грышкевіч;

3) ад Бел. Выд. Т-ва—гр. А. Трэпка;

4) ад Бацькаўскага К-ту пры Віл. Бел. Гімназіі—гр. М. Кепэль і М. Марцінчык;

5) ад Бел. Каапэратыўнага Банку — гр. М. Заморын;

6) ад Камітэту помачы ахвярам вайны—гр. У. Лукашэвіч;

7) ад Студэнскага Саюзу—гр. Я. Ермаковіч і

8) ад Тымчасовага Камітэту Сельсаюзу—гр. М. Шавялянка.

З гэтага вось-жа ясна відне, што ўсе арганізацыі, апроч ярэмічаўскае часткі сельсаюзу і хадэцыі, асталіся ў запраўдным Камітэце і былі прадстаўлены на сходзе 14 ліпня 1927 г.

**Бароняць.** „Сялянская Ніва“ ўсьцяж лічыць, што павадыр віленскіх расейцаў, сэн. В. Багдановіч, якому прыхільнікі беларускае хадэцыі і ярэмічаўскага сельсаюзу аддалі свае нялічныя галасы пры апошніх выбарах у Мястовую Раду, ёсьць беларус.

У апошнім нумары „Сялянская Ніва“ бароніць свайго ўлюблёнца ад закідаў, што гэты ўсе абыймаючы „адзіны і недзялімы“ прадстаўнік галасаваў за Паляка.

Радзілі-б рэдактарам „Сял. Нівы“ прачытаць, ну, хоць-бы „Słowo“ з дня пасьля выбараў (15/VII 1927 г.). У заметцы „Kto jak głosował“ даволі выразна сказана, што „падчас пярэрвы жыды-нацыяналістыя і радныя расеец і ліцьвін вырашылі (вось-жа, значыць, навет зрабіўшы паразуменьне) паддзержваць кандыдатуру п. А. Ледніцкага“.

Пэўна ж урадовая газэта паінфармавана была добра адносна галасоў радных на ўрадовага кандыдата.

## ДВА ДРУГІ.

„Песьня мая не ўзыйшла сярод кветак,
Кветак цьвітучага вечна паўдня“.
Янка Купала.

У мурох на цамэньце сухім
Кусток разросься малачаю.
І ён, як я, сарваны з краю
Віхуры посьвістам глухім.
Дзянькі юнацтва каратаю
На груньце чахлым і скупым.
Мы сябры два—адна ў нас доля,
І ён бяз сонца, як і я.
Абодвым нам сьмяецца Воля,
Абодвым сьніцца нам вясна.
Ад родных ніў, жыцьця, красы,
Ад сьветла—зьяючага мая
Сарваны з роднага мы краю,
Лязьвем зьнішчаючай касы.

Лукішкі, 10.-VI. 27 г.

* * *

Як пашчы каменнай цясьніны,
Як дошкі жоўтае труны,
Чатыры вузкія сьцяны
Вастрожнай камеры схіліліся...
Як увайшоў і зачыніліcь
З ляскотам дзьверы на запор...
Бывай каханьне і прастор —
На доўгі час мы разлучыліcь.
Злоцешна краты пазіраюць,
Няволі песьню запяваюць
Для госьця новага свайго,
А госьць ня цяміць аднаго:
На што-ж тут краты расстаўляюць,
На што і дзьверы замыкаюць,
Калі за кратамі ўвесь край.

30.-VI. 1927 г. **Алесь Салагуб.**

А як відно ўжо і з гэтае заметкі, ніхто, апроч ярэмічаўцаў і іх духоўных бацькоў, ня лічыць п. Багдановіча беларусам. Дый ён сам аб гэтым пэўна гаворыць толькі тады, калі яго выбіраюць... старшынёй самазванага на ка-ту.

Вось можна сказаць... незалежнікі!

**Вынікі выбараў у мястовую Раду ў м. Лідзе.** У Лідзе пры выбарах у мястовую раду беларусы выставілі свой асобны сьпісак і правялі свайго кандыдата. Вось-жа бачым новую праяву заваяваньня места беларусамі.

Паміж іншым перад намі выбары ў Вялейцы (павятовай). Спадзяёмся, што арганізаванае беларускае грамадзянства не прапусьціць гэтага моманту.

Цікава, што ў Лідзе польская хадэцыя прапанавала беларусам тры месцы, з умовай зблёкавацца з імі проці жыдоў. Аднак, беларускае грамадзянства на гэта не адгукнулася, даказаўшы гэтым сваё адношаньне да такога жываедзкага паступаньня.

**Да выбараў у Лідзе.** У ведамай абшарніцкай газэце „Słowo“ з 19.VII г. г. надрукавана (ясна, за плату і добрую плату) на паўстаронкі газэты абвестка Урадовае Камісіі па выбарах у мястовую Раду м. Ліды з паданьнем усіх сьпіскаў кандыдатаў на... 17-га ліпня.

Што гэта — камэдыя ці надужыцьце, каб паддзяржаць урадовую газэту платнай за абвестку?

**Правакацыйная заметка.** У віленскай расейскай газэце ўсьцяж зьяўляюцца розныя заметкі „з беларускага жыцьця“, якія носяць яўны характар правакацыі. Так, у адным з апошніх нумароў зьявілася вестка, быццам улады рэфармуюць беларускую гімназію, каб падняць яе роўню дый тым зрабіць яе „годнай публічных правоў“... А дзеля гэтага дырэктарам Беларускай Гімназіі назначаны ці мае быць назначаны — Умястоўскі... Ці гэта — пробны балёнік, абсталяваны хранікеру газэты... ці яшчэ штось іншае.

**Суд над беларусам.** 20 га чэрвеня сёлетняга году ў м. Глыбокім сэсіяй Віленскага Акружнага Суда пад старшынствам пана Аўсянкі быў засуджаны на чатыры гады цяжкага вастрогу з пазбаўленьнем правоў, з заменаю на чатыры гады вастрогу, замяняючага дом паправы, Янка Балаш—былы старшыня Празароцкага Гуртка Бел. С.-Р. Грамады. Абвінавачвалі яго па 1 ч. 102 арт. К.К.

**Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы** даводзіць да ведама, што сяброўскі білет № 6871 на імя Зьмітры Копаця, пражываючага ў в. Залацэева Дзярэчынскае гміны, Слонімскага павету, уневажняецца.

**Афіцыяльны курс грошы на 22 ліпня** Даляр—8 зл. 89 гр. Залаты рубель — 4 зл. 60 гр.

22./VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,90. Зал. р. 4,70. Чырв. 3 дал. 90 цэн.

## Культурна-асьветная праца ў Вялейскім павеце.

Вялейская Акружная Управа даводзіць да ведама вясковых гурткоў Т-ва Бел. Школы, што пастановай сваей ад 24 чэрвеня с. г. рашыла залажыць перасоўную бібліатэку, якая будзе мясьціцца ў Народным Доме, на вул. Д.-Бернацкага № 2. Зварочвацца трэба да сэкратара Акружной Управы. Выдача кніг для гурткоў ад гадзіны 9 да 18.

**Акружная Управа.**

### Адозва да ўсіх сяброў Т-ва Бел. Школы ў Вялейскім павеце.

Паважныя сябры!

Хто лічыць сябе сьвядомым беларусам, каму дорага ўсё сваё, роднае,—той павінен,

